# КРЫВІНКА

КРАСАВІК
№ 6 (160)
2015 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ПРА САМУЮ КРЫВАВУЮ ВАЙНУ І ПЕРАМОЖЦАЎ

**Чым бліжэй Дзень Перамогі, тым гучней хор галасоў людзей, якія не толькі не ўдзельнічалі ў той вайне, але часта наогул і пораху не нюхалі. Бо сапраўдныя змагары чамусьці ўспамінаюць крывавыя падзеі неахвотна. Пагаджуся з імі, што хваліцца забойствам людзей – невялікая радасць.**

І вось гэты хор не нюхаўшых пораху сёння бясконца спявае “Мы перамаглі крывавую арду фашыстаў… самая страшная вайна… увесь народ узняўся на барацьбу…”

Дзеля справядлівасці зазначу, што вайна з немцамі 1939 – 1945 г.г. не была самай знішчальнай для нашай Радзімы. Бо толькі ў адной вайне з Масковіяй у 1554-1567 г.г. (яна вядомая пад назвай “Крывавы патоп”) было знішчана БОЛЬШ ПАЛОВЫ насельніцтва нашых земляў. Нашых продкаў або забівалі або вывозілі ў рабства. А калі ўлічыць, што войны з усходняй суседкай рэгулярна доўжыліся некалькі стагоддзяў, то і страты ад гэтых войнаў былі несумерна большымі, чым за дзве, няхай сабе і сусветных, вайны з немцамі.

На жаль, сёння няма ветэранаў тых войнаў, і не засталося помнікаў на месцах баёў. (Падумайце самі, чаму іх не ўсталявалі расейцы.) І, на шчасце, не было ў той час тэлевізараў з кінакамерамі. А то б, пэўна, сёння да чарговай гадавіны нейкай бітвы гучала б прыкладна такое: “Мы знішчылі арду расейцаў-маскавітаў… самая страшная вайна… усе ўзняліся на барацьбу...”

Зразумела, чаму сёння нявыгадна “спяваць” пра тыя войны, бо мы, здаецца ж, карыстаемся мовай гэтай краіны, прынесенай калісьці на нашу зямлю на штыках. А таму дзяржаўная прапагандысцкая машына стараецца скарыстацца напоўніцу вайной з немцамі.

Але звесткі пра тое, што рэгулярныя нямецкія часткі паводзілі сябе на нашых землях адносна прыстойна, да нас трапляюць вельмі рэдка. Хаця, як апавядаюць сведкі той вайны, пасля захопу чарговай тэрыторыі немцы назаўтра не забівалі і не гвалтавалі насельніцтва, а стваралі ўладу, галоўнай рысай якой быў вядомы парадак. І толькі тады, калі супраць гэтага парадку хтосьці паўставаў(камуністы-партызаны), і ў выніку былі забітыя ці параненыя нямецкія салдаты, у адказ праводзіліся карныя мерапрыемствы. Вядомым выключэннем з прыведзенага правіла былі габрэі, якіх планамерна масава знішчалі.

Няма для нас звестак і наконт таго, як паводзіла сябе на акупаванай тэрыторыі савецкая“армія-вызваліцельніца”ў 1944 – 1945 г.г. Хаця ў інтэрнэце ёсць цікавая дакументальная інфармацыя. Па нейкіх прычынах(пэўна, каб не прынізіць краіну і не “аддаць” перамогу) яна доўгі час захоўвалася пад страшным сакрэтам. А праўда была ў тым, што пасля захопу чарговага (нямецкага, венгерскага, аўстрыйскага…) населенага пункта, калі не было імклівага наступу ўперад, то ЎСЕ ЖАНЧЫНЫ, хто не здолеў схавацца, ГВАЛТАВАЛІСЯ доблеснымі ваякамі. І ніякіх ваенна-палявых судоў. І ніякай забароны. Наадварот, негалосная падтрымка камандзіраў. “Мы ж – пераможцы, нам закон не пісаны. Мы ж пацярпелыя ў гэтай вайне. Нас знішчалі, а цяпер мы ўжо адпомсцім!”

Мне здаецца, што трэба спакойна абмяркоўваць розныя старонкі вайны, а не бясконца заклінаць пра сваю Вялікую Перамогу. Ніхто ў нас гэту перамогу не адбіраў, не адбірае і адбіраць не збіраецца. Як і іншыя перамогі, вялікія і малыя, яна даўно стала гісторыяй.

Уся Еўропа перажыла сотні і сотні войнаў. І яе веліч у тым, што сёння былыя ворагі мірна жывуць, супрацоўнічаюць і разам памінаюць палеглых. І, заўважце, жывуць багата. Мы ж карыстаемся загадзя пройгрышнымі лозунгамі: нібыта і сёння ў нас ёсць злыя ворагі, але ж мы – пераможцы, то-бок мы – лепшыя. Але, чамусьці, сёння жывём у галечы.

Так, мы калісьці былі пераможцамі. На Крапівенскім полі. Пад Клецкам і Кірхгольмам. Над рускімі, татарамі і шведамі. Але пра тыя славутыя перамогі сёння аніхто з дзяржчыноўнікаў чамусьці не згадвае. Абсалютнае маўчанне. Хаця для незалежнасці нашай радзімы яны адыгралі вялізную ролю. Затое ваўсю эксплуатуецца апошняя вайна з немцамі. Каб зноў і зноў выгукнуць, звязаць словы “мы” і “пераможцы”, то-бок “лепшыя”. Нібыта пасля таго, як мы 1000 разоў гэта выгукнем, і сапраўды палепшаем.

Але ж да гэтай “лепшасці” нам сёння як да Амерыкі ракам. Сёння трэба даказваць сваю “лепшасць” у свеце, не дзякуючы “дзеду за пабеду”, а штодзённай стваральнай працай. У нас ёсць шмат праблем, а як іх вырашыць ёсць чаму павучыцца ў тых жа немцаў.

**Г.Станкевіч.**

***P.S.*** *Палеглых на вайне трэба проста памятаць. Па імёнах.*

*У 1915-м пад Слонімам у вайне з немцамі пасля газавай атакі “за веру, царя и Отечество” лёг мой 24-гадовы дзед Станкевіч Раман Стэфанавіч. 20-га снежня 1944-га года ва Ўсходняй Прусіі (сёння Літва, вёска Андронішкіс) прамым пападаннем у акоп артылерыйскага снараду загінуў другі дзед – радавы Станкевіч Павел Стэфанавіч. Вечная ім памяць.*



НАША ЖЫЦЦЁ

## ЧАМУ ВЫМІРАЮЦЬ НАШЫ ВЁСКІ?

**Нашы вёскі імкліва выміраюць. І не толькі тыя, якія ляжаць навотшыбе. Выміраюць нават былыя цэнтры калгасаў. Адзін з прыкладаў – вёска Двор Нізгалава.**

Я прыехаў сюды працаваць пасля размеркавання ў сельгасакадэміі ў далёкім 1984-м. Калі б мне хтосьці сказаў, што праз 30 гадоў у вёсцы будзе страшэннае запусценне, я б спрачаўся да ахрыпласці. Але факт застаецца фактам…

На пад'ездзе да цэнтра калгаса вас сустрэне знешне нядрэнная, у чымсьці крыху ідылічная карціна – прыгожы магазін і будынак калгаснай канторы з клубам. Але справа ад канторы вы ўбачыце нежылы ўжо будынак.

Тады, 30 гадоў таму, тут жыла сям'я механізатара і настаўніцы. Сёння яны абодва жывуць далёка адсюль, у Мінскай вобласці. Чаму? Сярод іншых тлумачэнняў можна спыніцца на тым, што дом гэты не іхні, халодны, калісьці ацяпляўся з цэнтральнай кацельні, а потым яе адключылі.

Каб сфатаграфаваць пустуючыя дамы, якія зарослыя быльнягом, далёка ехаць не спатрэбілася. Яны ляжаць насупраць будынка канторы. У адным з іх 30 гадоў таму я жыў цэлых паўтара года. У ім таксама было цэнтральнае ацяпленне.

Зараз жа нават у клубе тэмпература паветра складае 9 градусаў цяпла. Па сутнасці гэта ўстанова культуры больш не функцыянуе. Моладзі, якая сюды гады тры таму яшчэ збіралася, фактычна няма. Яна кудысьці знікла. (Як кудысьці знік шырока разрэкламаваны трэнажорны зал. Ён мусіў быць усталяваны ў Двор Нізгалаўскім клубе, але яго сюды так і не давезлі.) А ў далёкім 1985-м, у чэрвені, больш 20 чалавек камсамольцаў з калгаса імя Дзімітрава (так ён называўся раней) арганізавалі паездку ў тагачасны Ленінград, каб паглядзець ягоныя белыя ночы.

Сёння ў гэтым вялізным будынку функцыянуюць пакуль што толькі два пакоі: пошта і бухгалтэрыя. Другі паверх поўнасцю пусты. Але пошту хутка зачыняць, а кантору яшчэ хутчэй. І тады будынак папоўніць спіс, у якім за адну базавую выстаўляюцца на аўкцыён падобныя будынкі.

Галоўнай славутасцю сённяшняга Двор Нізгалава з'яўляецца зусім не панскі дом. Там калісьці месцілася сярэдняя школа, потым пару гадоў назад была бібліятэка з музеем. А цяпер ён пусты і без ацяплення.

Галоўнай славутасцю сённяшняй вёскі можна назваць ... агароджу. Яна сустрэне вас адразу каля ўезда ў Двор, як і каля магазіна, у самым цэнтры вёскі – перакошаная і пакрыўленая.

Каля ія пад ыходзіў глядзець бліжэй былы панскі палац, то натрапіў на кучу пустых бутэлек з-пад гарэлкі. Сённяшнюю адметную рысу нашага жыцця. Тое, на чым пакуль што трымаюцца калгасы.

Што разам з калгасамі і забіла нашу вёску.

**Г.Станкевіч**

## Я ІШОЎ ДА ЦЯБЕ І ШЛЯХАМІ, І СЦЕЖКАМІ

*Я ішоў да Цябе і шляхамі,*
*і сьцежкамі –*
*як жывеш Ты, радзімы мой Край?*
*Быў Ты слаўны калісьці лясамі*
*бязмежнымі,*
*а сягоння бязмежны Твой страх.*

*Твой народ, што нярэдка еў хлеб*
*з лебядою,*
*быў у бітвах ня горшы ваяр,*
*сёння ходзіць над прорвай*
*ў абдымках з бядою,*
*і не знойдзе дарог аніяк.*

*Я дзіўлюся Тваёй прыгажосці*
*заўсёднай,*
*мае болькі Ты лечыш журбой:*
*жураўліным ключом над асенняю*
*пожняй,*
*што пяе развітаньне з Табой,*

*пахам кволенькім сініх пралесак*
*на ўзлессі,*
*завірухай чаромхавых рэк,*
*і шпачынаю сумнаю просценькай*
*песняй,*
*ад якой штосьць у горле дзярэ.*

*І вясёлкай над нашаю вёскай*
*гаротнай,*
*развітальным палётам буслоў,*
*і цярпеннем Тваім невымерным,*
*заўсёдным,*
*пра якое ня выказаць слоў…*

*Гінуць вёскі, як быццам стапталі*
*іх орды,*
*дажываюць нядоўгі свой век.*
*І тлусцеюць чыноўнікаў сытыя*
*морды,*
*і смяецца адзін чалавек…*

*Калі сніцца мне ў снах, што*
*Цябе пакідаю,*
*прачынаюся з болем ў грудзях.*
*Ты – каханне маё.*
*Ты – мая дарагая,*
*Ты – мне Богам прысуджаны шлях.*

*Мо занадта была Ты такой*
*хлебасольнай?*
*Эх, які ў Цябе рабскі спакой!*
*Ці не лепей памерці за Волю*
*і Вольнасць,*
*чым жыццё у вязніцы такой?*

***Г. Станкевіч***

ПРАБЛЕМЫ БУДАЎНІЦТВА

# КОЛЬКАСЦЬ ДАЎГАБУДАЎ РАСЦЕ - НЯМА ФІНАНСАВАННЯ

**Як у цэлым па краіне, так і ў Бешанковіцкім раёне зрушваюцца тэрміны ўводу новага жылля.**

На думку намесніка начальніка ўпраўлення кантролю будаўніцтва, ЖКГ і сувязі КДК Віктара Якаўлева, якое ён выказаў у ведамасным часопісе, "вынікі праведзенага маніторынгу сведчаць пра тое, што ў першым паўгоддзі 2015 лік праблемных дамоў можа павялічыцца". Гэта можа адбыцца за кошт аб'ектаў, тэрмін здачы ў эксплуатацыю якіх яшчэ не наступіў, але якія ўжо маюць значнае адставанне ў тэрмінах будаўніцтва. Пры гэтым сярод прычын у затрымцы КДК у першую чаргу называе нестабільнае фінансаванне.

Сітуацыя характэрная не толькі для Мінска і Мінскай вобласці, але і для рэгіёнаў. Напрыклад, у Віцебскай вобласці ў выніку прыпынення будаўніцтва ўвод жылога дома ў г.п. Бешанковічы быў адсунуты на чатыры месяцы - са студзеня на май 2015 года. Зрэшты, на дадзены момант дом гатовы толькі на 22%, таму мясцовыя ўлады, хутчэй за ўсё, зноў фармальна прыпыняць будаўніцтва, каб у чарговы раз перанесці тэрмін уводу дома ў эксплуатацыю і не патрапіць у спіс праблемных.

**TUT.BY**

ГАНДАЛЬ

# КУПІЦЬ ВЕЛАСІПЕД

**З пачаткам цёплага сезону на дарогі выязджае больш веласіпедыстаў і матацыклістаў. А дзе ў райцэнтры можна набыць двухколавага сябра?**

Магазін "Анлайн" проста на вуліцы прапаноўвае набыць скутэры. Праўда, кошты на іх даволі высокія 17 – 18 мільёнаў, на адзін ці нават тры зарплаты не купіш. Тым не менш, хтосьці прыцэніцца, параўнае гэтыя кошты з інтэрнэтнымі.

Мясцовыя "Культтавары" прапануюць дарожныя веласіпеды за 1,6 - 1, 7 млн. і за 3,2 - 3,3 млн. Дарэчы, на бешанковіцкім рынку іх больш не прадаюць. Кажуць, што з 1-га студзеня ўступіла ў сілу пастанова, згодна з якой веласіпед лічыцца складанай бытавой тэхнікай і мусіць прадавацца толькі ў спецыялізаваных крамах.

**Г.Станкевіч**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ЗРАБІЦЕ ЛЮДЗЯМ ПАДАРУНАК!

**Размова ў артыкуле пойдзе пра дом № 32 па вуліцы Чарняхоўскага.**

Калі я год таму падчас выбарчай кампаніі збіраў тут подпісы, то звяртаў увагу раённых чыноўнікаў на стан прылягаючай да дома тэрыторыі.

Думаецца, што бачыў гэта і абраны па гэтай акрузе дэпутат райсавета.

На здымку, які публікаваўся на нашым сайце год таму, бачны вялізныя лужыны каля пад'ездаў гэтага дома.

Мінуў год. Трэба было б запытацца ў абранага дэпутата, што ж змянілася па ягонай акрузе. Здымак, які зроблены 20.04.2015 паказвае, што змяненняў няма. Па-ранейшаму жыхары дома № 32 патанаюць у балоце.

Год таму "Крывінка" пісала: "Калі я збіраў тут подпісы, то казаў людзям, што маёй першай дэпутацкай акцыяй будзе вырашэнне менавіта іхняй праблемы.

А для вырашэння яе патрэбна нямногае: тры ці чатыры "МАЗы" рубаўскай шчабёнкі. Прыкатаная, яна стаіць не горш за асфальт. На жывёлаводчыя комплексы яе возяць з Рубы тысячамі тон.

Толькі хто і калі ў нас паклапаціўся пра чалавека?"

Дадам сёння: аніякага клопату няма. Ёсць толькі гучныя словы з трыбун і пусканне пылу ў вочы.

**Г.Станкевіч**

***P.S.*** *У гэтай сувязі звяртаюся да старшыні райвыканкама: "Паважаны Леанід Канстанцінавіч! Можа з нагоды 70-годдзя Перамогі людзям зробіць доўгачаканы падарунак? Ці ім трэба чакаць наступнага юбілею?"*

ЗДАРЭННІ

# ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў 2014-М ГОДЗЕ

**За мінулы год у Бешанковіцкім раёне было зарэгістравана 164 злачынствы, усяго на 2 менш чым у 2013 годзе.**

Колькасць забойстваў, цяжкіх злачынстваў і грабяжоў засталася ранейшай: 1 забойства, 2 цяжкія злачынствы і 3 грабяжы.

Пераважную колькасць злачынстваў склалі крадзяжы – 99 выпадкаў, з іх 36 адбылося ў г.п. Бешанковічы, 17 – у Астровенскім сельскім Савеце, 12 – у Бешанковіцкім, 9 – у Вульскім.

З 7 да 12 узрасла колькасць людзей, якія не плацяць элементы.

З 1да 4 павялічылася колькасць сагнаных аўтамабіляў.

З'явілася тры выпадкі службовага падлогу(раней не было зусім).

Было зарэгістравана толькі 2 выпадкі незаконнай рыбнай лоўлі.

27 злачынстваў было зроблена ў стане алкагольнага ап'янення(было 33), 38 – раней судзімымі людзьмі(было51).

За мінулы год у раёне не зарэгістравана згвалтаванняў, уцягнення непаўнагадовых, браканьерства, падробкі дакументаў і ўхілення ад грамадскіх работ.

*(Па матэрыялах пракуратуры Бешанковіцкага раёна)*

**М.Васільеў**

ДЭМАГРАФІЯ

# ЖАНЧЫН-ПЕНСІЯНЕРАК НАШМАТ БОЛЬШ

**Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь апублікаваў полаўзроставую структуру насельніцтва па стане на 1-га студзеня 2015 года.**

У Бешанковіцкім раёне на 01.01.2015 пражывала 16 105 чалавек, у тым ліку 8 411 жанчын і 7 694 мужчыны. Перавага жаночага насельніцтва – 717 чалавек, што складае амаль 5 % ад колькасці ўсяго насельніцтва.

У сельскай мясцовасці пражывала 9 350 чалавек. Колькасць жанчын складала 4 776, а мужчын 4574, то-бок мужчын менш на 202.

У райцэнтры пражывала 6 755 чалавек. Колькасць жанчын складала 3 635, а мужчын 3 120, мужчын меней ужо на 515 чалавек.

Ва ўзросце маладзейшым за працаздольны назіраюцца адваротныя суадносіны: 1184 мужчыны супраць 1 079 жанчын.

У працаздольным узросце колькасць жанчын у раёне складла 3 495, а мужчын 4 826.

Затое ў пенсіённым узросце жанчыны маюць больш чым двайную перавагу: 3 837 супраць 1 684.

У Бешанковічах жанчын-пенсіянераў 1 444, а мужчын – толькі 616. На сяле жанчын-пенсіянераў 2 393, а мужчын толькі 1 068.

**М.Васільеў**

БЕРАЖЫ СВАЁ!

# ВЕРНЫ Ў МАЛЫМ І Ў ВЯЛІКІМ ВЕРНЫ

**Я недзе прачытаў: «Клопатам аб уласнай сям'і можна апраўдаць любое злачынства».**

І яно так: лупіць цябе міліцыянт у камеры, а на заўтра на прадоле апраўдваецца «Ты ж не будзеш маіх дзяцей карміць». Калі ж такую філасофію спраектаваць на ўсю краіну, можна было б сказаць і такім чынам: «Клопатам аб незалежнасці можна апраўдаць любое злачынства».

І мы ўжо трэці дзясятак год назірам, як клопатам аб народзе апраўдваецца любое зладзейства. Але апошнім часам да гэтай філасофіі жыцця далучыліся і прадстаўнікі апазіцыі. Вось днямі нават і сябар мой, з якім мы паралельна маталі пару год, падтрымаў канцэпцыю «калі ў імя незалежнасці, дык і з чортам лысым».

Ніхто не спрачаецца: незалежнасць і самывызначэнне нацыяў – гэта тая святая свабода, якую ад стварэння свету даў кожнаму чалавеку і кожнаму народу Госпад. Любая ідэя, якая пасягае на правы выбару асобы ці народа – гэта выразна бесаўская ідэя. Такім чынам, бараніць свабоду і незалежнасць – гэта таксама святая справа. Толькі вось метады! Метады – гэта тое, на чым мы часта спатыкаемся.

Гэта вельмі цяжка і непрыемна, зазірнуць у корань, але давайце паспрабуем. Каго прыйшоў вызваляць ва Украіну «расейскі акупант»? Гэта нікому не сакрэт і вы можаце самастойна гэта прагугліць, – пра гэта не аднаразова заяўлялі і Пуцін, і Лаўроў, – Расея прыйшла ва Украіну бараніць правы расейскамоўных грамадзянаў. Адсюль вынікае: расейская мова – гэта тэрыторыя, на якую прэтэндуе «расейскі акупант»; а расейскамоўныя – гэта людзі, которыя свядома ці не свядома, мэтанакіравана ці не разумеючы таго, але даюць усе аргументы Расеі прыйсці і бараніць правы «сваіх расейскамоўных братоў».

І я кажу свайму сябру: «Паслухай, ты на якой мове размаўляеш?» Ён мне сумна так: «На расейскай». Я яму: «Дык пра абарону якой незалежнасці ты гаворыш?! З якім чортам ты аб'ёднацца хочаш, калі сам выдаеш «рускаму акупанту» ўсе падставы прыйсці і цябе вызваліць?!» Сябар мой маўчыць.

Ісус Хрыстос сведчыць: «Верны ў малым, і ў вялікім верны, а ня верны ў малым няверны і ў вялікім» (Лукі 16:10). Я не стамлюся крычаць пра адну рэч: давайце будзем паслядоўнымі! Давайце навучымся быць вернымі ў малым!

Госпад даў нам гэтае малое – нашу мову. Што можа быць лагічней за тое, каб проста пачаць на ёй гаварыць – і гэтым супрацьстаць «рускаму акупанту»? Але не, мы не хочам быць вернымі ў гэтым «малым»! Мы хочам адразу пра «вялікае»: пра зброю, пра абарону незалежнасці, пра кіраванне народам. Але падумайце самі, ці даверылі б вы камусьці вялікую справу, калі перад тым ён дзесяць разоў заваліў малую? Ці даверыць нам Бог нашу краіну і яе абарону, калі мы раз за разам здраджваем у элементарных рэчах?

Я сам праз гэта прайшоў: вельмі цяжка паўсюль і заўсёды размаўляць па-беларуску, але, з іншага боку, сядзець у акопах і лавіць снарады «расейскага акупанта» будзе яшчэ цяжэй. Дык мо не будзем да гэтага даводзіць? Мо давайце паднацiснем на сваю волю і загаворым? Давайце мо паспрабуем быць вернымі ў малым, каб Госпад даверыў там тое вялікае, што Ён падрыхтаваў для нас і для нашага народа?

**Зміцер Дашкевіч**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# КРАІНА ЧЫНОЎНІКАЎ І ЗЭКАЎ

**Па інтэрнэце ходзіць шмат прапановаў, як не стаць дармаедам. Прапануюць зрабіцца інвалідам, нараджаць дзяцей, сысці ў войска... Але самы просты рэцэпт пазбавіцца «падатку на дармаедства», — гэта быць пакараным за дармаедства.**

Не сакрэт, што славуты «дэкрэт пра дармаедства» яшчэ да яго прыняцця нарабіў шоргату ў асяродках збольшага законапаслухмяных беларусаў. Усе чакалі ад яго нейкіх жудасных захадаў. А на справе ён аказаўся даволі бяззубым. Не хапіла ва ўлады крэатыўнага мыслення, і ў выніку незразумела, як ён будзе працаваць.

Ад пачатку разбярэмся, што такое гэты дэкрэт з эканамічнага пункту погляду. Зараз кожны «лайдак» павінен на працягу года заплаціць у бюджэт 20 базавых велічыняў «на пакрыццё сацыяльных выдаткаў». На сёння гэта 3 мільёны 600 тысячаў рублёў, альбо прыкладна $250. Будзем лічыць у доларах, бо так атрымліваецца менш нулёў.

Паводле словаў нашага кіраўніцтва, дай Бог яму здароўя, у краіне каля 400 тысячаў дармаедаў.

400 000 х 250 = $100 мільёнаў. Менавіта на гэтую суму максімальна можа разлічваць дзяржава з «дармаедскага падатку». Сума, з аднаго боку, немалая. Але ў маштабах краіны — пшык.

Да прыкладу, за валютнакрызісны снежань 2014 года, згодна з дадзенымі Нацыянальнага банка, беларусы набылі $902 мільёна. У цэлым за 2014 год насельніцтва купіла валюты на агульную суму $10,96 мільярда, прадало — на $9,58 мільярда. Чыстая купля валюты за мінулы год склала 1,38 мільярда долараў. Карацей, «бедныя беларусы», калі паднапружацца, за адзін месяц могуць дзесяць разоў пакрыць гадавую выручку «лайдацкага падатку».

Але наўрад ці яны будуць напружвацца. Справа ў тым, што вылічыць лайдакоў практычна немагчыма. Канешне, на ўліку ў міліцыі ёсць пэўная колькасць асацыяльных элементаў, але з іх і так узяць няма чаго. Што ж да астатніх, то начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Міхаіл Расолька распісаўся ва ўласным бяссіллі, паведаміўшы, што падатковая разлічвае выключна на сумленнасць грамадзянаў…

Цікава, хто прызнаецца ў дармаедстве? Нават апошні бомж, які збірае паперу ды бутэлькі па сметніцах, лічыць сябе не дармаедам, а эколагам, барацьбітом за другасную перапрацоўку сыравіны.

Канешне, падатковая будзе спрабаваць «шчаміць» дармаедаў праз зарэгістраваныя буйныя здзелкі. «У першую чаргу будуць правераны грамадзяне, якія не ўдзельнічалі ў фінансаванні дзяржаўных выдаткаў, але пры гэтым здзяйснялі дарагія пакупкі», — сказаў Расолька. Але ж пры гэтым здзелка павінна быць зусім буйной — нерухомасць альбо машына. Пры набыцці лядоўні альбо тэлевізара ні ў каго пашпарту і не запытаюцца. І я больш чым упэўнены, што кватэры не набываюць дармаеды.

Калі ўсур'ёз пачаць вылічваць «дармаедаў», то трэба наладзіць татальны кантроль над выдаткамі грамадзянаў. А гэта значыць, штат падатковай інспекцыі трэба павялічыць разоў у пяць. Збольшага, тады ўсе дармаеды стануць чыноўнікамі-падаткавікамі.

Адной з мераў, закліканых стымуляваць дармаедаў да яўкі ў падатковую, называецца тое, што ім будзе забаронены выезд за мяжу. Спадарства, гэта смешна! 70% беларусаў за мяжу не выязджалі ніколі! Гэта па-першае. Па-другое, як гэта ажыццявіць, калі ў нас адкрытая мяжа з Расіяй? Нават калі рускія з беларусамі дамовяцца пра ўзаемны абмен спісамі невыязных, то можна выехаць у Расію, а адтуль — ва Украіну і…

Па інтэрнэце зараз ходзіць шмат экзатычных прапановаў, як не стаць дармаедам. Прапануюць зрабіцца інвалідам, нараджаць дзяцей, сысці ў войска і нават стаць сябрам Саюза пісьменнікаў. Але самы просты рэцэпт пазбавіцца «падатку на дармаедства», насамрэч — гэта быць пакараным за дармаедства адміністрацыйным арыштам. Адбыццё арышту прыраўноўваецца да выплаты збору.

Адседзець 15 сутак у нашых умовах, калі «па палітыцы» праз гэта прайшлі дзясяткі, калі не сотні тысяч чалавек, гэта нават не ганьба. У пэўных палітычных колах нават лічыцца, што калі ты «на сутках» не быў, значыць, з табой нешта не так: альбо ты КДБшны агент, альбо «ты яшчэ зялёны».

Суткі ў ізалятары каштуюць недзе 70 тысячаў. Нават калі сто тысячаў пасля дэвальвацыі, нават калі максімальны тэрмін 15 сутак, то за гэта дармаед заплаціць паўтара мільёны рублёў, што на 2 мільёна 100 тысяч танней, чым падатак. Ну і, канешне, улічвайце два тыдні адпачынку па паважнай прычыне.

Карацей, дармаедам зараз два шляхі. Альбо ісці працаваць у падатковую, што аўтаматычна робіць іх чыноўнікамі, а не дармаедамі. Альбо ў кароткатэрміновыя «зэкі». Але, відавочна, што з «дармаедскага падатку» бюджэт сінявокай не надта выйграе, а можа, нават, і згубіць. І таму гэты дэкрэт — проста адпіска на патрабаванне Аляксандра Рыгоравіча «навесці парадак» у гэтай сферы.

**Сяргей Пульша**
**«Новы час»**




БЕЛАРУСЬ - РОССИЯ

# ЛУКАШЕНКО И КРЕМЛЬ: ДРУЖБА ДРУЖБОЙ, А ПАРАДЫ ВРОЗЬ

**Белорусский президент 18 апреля раскритиковал «политиков, которые сегодня амбициозно отказываются приехать на празднования в Москву, хотя раньше и обещали». При этом выяснилось, что и сам он на параде 9 мая в российской столице присутствовать не будет.**

Но тут дело не в амбициях, а в законе, пояснил Александр Лукашенко: «В Беларуси по Конституции, кроме главнокомандующего, никто не может принимать парад». А он у нас тоже 9 мая. Вместе ведь, как говаривал белорусский лидер, в окопах гнили.

Правда, в Основном законе Беларуси слова «парад» нет вообще. Еще один пикантный момент заключается в том, что в начале марта ряд авторитетных российских ресурсов со ссылкой на Юрия Ушакова, помощника президента России, сообщил: Лукашенко дал предварительное согласие на участие в параде по случаю 70-летия Победы в Москве.

**Путин не увидит на трибуне ни Обамы, ни Лукашенко**

Возможно, журналисты тогда не так поняли Ушакова. Не исключено, что Лукашенко пообещал лишь в принципе появиться на майских торжествах. И от этого он не отказывается. Общаясь с журналистами в Минске на субботнике 18 апреля, глава государства сообщил, что, скорее всего, прибудет в Москву 7-8 мая и может участвовать в церемонии возложения венков к могиле Неизвестного солдата.

Но факт то, что 9 мая Владимир Путин не увидит рядом на трибуне ближайшего союзника, равно как и многих мировых лидеров, которые и в самом деле из принципа («амбициозно») отказались от участия в столь важном для Кремля мероприятии в знак протеста против антиукраинской политики российского руководства.

В ряду таких отказников — Барак Обама, Дэвид Кэмерон, Дональд Туск и прочие крупные деятели демократического мира. Так что Лукашенко в этом плане попадает в весьма приличную кампанию (хоть и с иной вербальной мотивацией).

Шутки шутками, но таким образом белорусский официальный лидер вольно или невольно добавляет еще один штрих в пиаровскую картину дистанцирования Минска от Москвы.

Показательно, что ряд российских интернет-СМИ тут же выстрелил заголовками типа «Лукашенко отказался приехать в Москву на 9 Мая».

Здесь ключевое слово — «отказался». Дипломатичную мотивацию белорусского лидера (типа: я верный союзник, но просто занят дома) проигнорировали. Это кладется в русло довольно популярного ныне в российском медиапространстве тезиса о «тихой измене Батьки».

**Вместо георгиевской ленточки — «Цветок Великой Победы»**

Ну, насчет измены они загибают, а вот позиционирование, в том числе и в плане символики, налицо. Еще одним показательным штрихом станет, судя по всему, негласный отказ от использования на День Победы в Беларуси гвардейских/георгиевских ленточек, ставших отличительным знаком сепаратистов на Донбассе.

Распространения этой символики в связи с праздником 9 Мая в Беларуси постарались избежать уже год назад. Тех товарищей (из торговых сетей, например), что не сразу въехали в новый политический контекст, властям пришлось аккуратно поправить.

Ныне же вертикаль без шума и пыли работает над тем, чтобы повсеместно были ленточки красно-зеленые, в цветах нынешнего белорусского государственного флага, с яблоневым цветком (победный май — время цветения).

Массовое производство такого аксессуара под названием «Цветок Великой Победы» наладили на могилевском ОАО «Лента». Минторг рекомендовал всем сотрудникам организаций торговли, бытового обслуживания и общественного питания украсить такой бутоньеркой форменную одежду на праздники. Скорее всего, ленточки будут раздавать и всем желающим.

Этот символ в начале года придумал и показал президенту БРСМ. У национально ориентированной оппозиции как БРСМ, сделанный по матрице комсомола, так и сама официальная символика (при том что в начале 90-х государственным был исторический бело-красно-белый флаг) не вызывают восторга.

Но в этой конкретной ситуации даже идейные противники Лукашенко убеждены: уж лучше красно-зеленая ленточка, чем черно-оранжевая.

**У белорусской независимости слабая база**

У белорусского президента наверняка уже работают в полную силу предвыборные соображения. Предпочти он 9 мая Москву Минску — оппозиция сразу бы заклеймила как сателлита Кремля.

Другое дело, что, хотя суверенная символика и важна, самостоятельность страны определяется отнюдь не только тем, чтобы ввести иные ленточки да в мундире главнокомандующего принять свой отдельный парад…

По причине колоссальной финансово-экономической зависимости от России белорусские власти не могут поставить заслон ее агрессивной пропаганде, которая де-факто работает на разрушение и без того слабой пока белорусской идентичности, создает плацдарм для гипотетического аншлюса.

Наметившийся курс на белорусизацию сверху (риторика властей, наглядная агитация, некий простор для культурных инициатив и пр.) чересчур робок, непоследователен (хотя и это лучше, чем ничего).

Раскрепощения гражданского общества, политизации белорусов власти, похоже, боятся больше, чем зеленых человечков Путина.

Но независимость страны могут обеспечить и отстоять лишь свободные, сознательные граждане, а не серая затурканная биомасса, которую воспроизводит нынешняя система.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**
**«Белапан»**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# ЯК КРАЛІ Ў БЕЛКААПСАЮЗЕ

**У Мінску ідзе гучны працэс па справе саюза спажывецкіх кааператываў.**

Судзяць адразу шасцярых: ужо былых кіраўнікоў Белкаапсаюза і бізнэсоўцаў. Адны, як даводзіць пракурор, бралі хабар, другія яго перадавалі. У справе фігуруюць сотні тысяч даляраў.

Судзяць былых кіраўніка Белкаапсаюза Сяргея Сідзько, начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Белкаапсаюза Дзмітрыя Калодзезнага і яго намесніцу Элеанору Сізук, намесніка дырэктара фірмы «Адонісбудсэрвіс» Уладзіміра Ленскага, дырэктара фірмы «Саната¬Буд» Аляксандра Драняькова, грамадзяніна Украіны Андрэя Турчанку. Сідзько і Турчанка — за кратамі, астатнія прыходзяць на суд з дому.

**Аматар віскі ў рангу міністра**

Белкаапсаюз — дзяржаўная арганізацыя, якая валодае вялізнай маёмасцю па ўсёй краіне. Гэта сетка крамаў і кавярняў, будаўнічыя і транспартныя арганізацыі і яшчэ шмат іншага. Вялікая бізнэс¬-імперыя, у якой занята больш за 80 тысяч чалавек. А кіраўнік гэтай «імперыі» прыраўнаны па статусе да міністра.

Сяргея Сідзько абвінавацілі ў тым, што ў змове з Дзмітрыем Калодзезным лабіраваў інтарэсы прыватных фірм пры заключэнні дамоў на будаўніцтва і рамонт белакаапсаюзаўскіх аб'ектаў. За гэта абодва атрымлівалі грошы ад удзячных бізнэсоўцаў.

З 2010 па 2013 Сідзько паспрыяў заключэннюкантрактаўнабудаўніцтва крам у Лідзе, Любані, Жлобіне, на будаўніцтва халадзільнага склада ў Мінску, на рамонт у вучэбных карпусах Полацкага гандлёва-¬тэхналагічнага каледжа. Гэта толькі частка эпізодаў. І каля двух дзясяткаў сустрэч, падчас якіх перадаваліся грошы — у суме больш за $ 100 тысяч. Калодзезнаму перадавалі значна меншыя сумы.

Грошы перадаваліся пры пасярэдніцтве Ленскага. А разам з грашыма Ленскі «ад сябе» перадаваў Сідзько віскі: па адной, дзве, тры бутэлькі. Агулам не менш за 17.

**Муляж паўмільёна даляраў**

Паводле абвінавачвання, у 2011 Калодзезны ўступіў у змову з Андрэем Турчанкам. Прапанаваў украінцу знайсці пакупнікоў на аб'екты Белкаапсаюза: адміністратыўны будынак на вуліцы Татарскай, дзіцячы садок на Партызанскім праспекце ў Мінску і дзіцячы лагер у Мінскім раёне. Але была ўмова: пакупнік мусіў частку грошай аплаціць праз банк, а рэшту аддаць гатоўкай.

Турчанка сам даць рады ў такой справе не змог і звярнуўся да супрацоўніцы агенцтва па нерухомасці Браздзецкай: паабяцаў узнагароду за пошук кліента. Яна і адшукала — кампанію «БелЛПЗ». За будынак на Татарскай пакупнік мусіў $ 1,1 мільёна пералічыць на рахунак Белкаапсаюза, а $ 500 тысяч перадаць на рукі для хабару. Турчанка тады узяў $ 5000 задатку, а рэшту пакупнікі паклалі у банкаўскую ячэйку — нібыта для гарантыі. Як высвятляецца, бізнэсоўцы звярнуліся ў КДБ. І калі клалі грошы ў банк, гэта быў муляж — несапраўдныя даляры. А пасля, у ліпені 2013, прайшлі арышты.

Браздзецкую, між іншым, таксама будуць судзіць. Спачатку яе справу збіраліся разглядаць асобна, але суддзя вырашыў далучыць да гэтай. З наступнага пасяджэння лава абвінавачаных папоўніцца…

**«Раскайваюся»**

«Абвінавачанне зразумелае. Не прызнаю цалкам ні па адным з эпізодаў», — заявіў Сяргей Сідзько. У тон яму вымавіў і Дранькоў: «Абвінавачанне не прызнаю ў поўным аб'ёме».

Калодзезны прызнаў, што грошы браў, але нікому не спрыяў. Ленскі і Сізук адпірацца не сталі.

Падрабязную пазіцыю кожнага з абвінавачаных можна будзе пачуць толькі падчас іх допытаў у працэсе.

* * *

**Бацька немаўляці**

Дзмітрый Калодзезны нарадзіўся ў 1976. Жанаты. Гадуе сыноў: аднаму 7 гадоў, другому паўгода. Цяпер працуе майстрам у будаўнічай кампаніі.

Вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі (да 6 гадоў калоніі); атрыманні хабару (да 10 гадоў калоніі з канфіскацыяй); падбухторванні да дачы хабару (да 7 гадоў калоніі).

**Уладкавалася ў сенатара**

Элеанора Сізук нарадзілася ў 1969 у Ташкенце. Грамадзянка Беларусі. Мае вышэйшую адукацыю. Замужам. Мае двух сыноў. Цяпер працуе ў «АмкадорБелвар», які належыць сенатару Шакуціну. Вінавацяць у атрыманні хабару (да 7 гадоў калоніі з канфіскацыяй); атрыманні незаконнага ўзнагароджвання (да 5 гадоў калоніі).

**Купіў дом на Канарах?**

Сяргей Сідзько нарадзіўся ў 1956 у Брэсце. Працаваў на Брэсцкім заводзе бытавой хіміі, быў старшынёй праўлення Брэсцкага аблспажыўсаюза. У 2009 прызначаны кіраўніком Белкаапсаюза. Жанаты. Мае сына і дачку.

«Дайшло да таго, што Сідзько купіў і аформіў на дачку дом на Канарскіх астравах. Напэўна, у спадзяванні, што праваахоўныя органы там яго не дастануць. За продаж будынка ў цэнтры Мінска патрабаваў хабар аж у паўмільёна даляраў», — заявіў летась Лукашэнка пра гэтую справу. Праўда, на судзе дом на Канарах пакуль не ўсплыў.

Адвакат хадайнічаў, каб Сідзько змянілі меру стрымання альбо вызвалілі пад заклад. У якасці закладу жонкапрапанаваласваютрохпакаёўку (67 м2) у Брэсце. Але суддзя адмовіў.

Сідзько вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі (пагражае да 10 гадоў зняволення) і атрыманні хабару (да 15 гадоў з канфіскацыяй).

**Сяргей Макарэвіч**
**«Наша Ніва»**

ПЛАКАЛЬЩИКИ

# ПОЧЕМУ ОФИЦИАЛЬНЫЕ ВЛАСТИ БЕЛАРУСИ УПОРНО ОТКАЗЫВАЮТСЯ ПРОВЕСТИ ЧЕСТНЫЕ ВЫБОРЫ?

**Плакальщики – специально нанятые люди, задача которых голосить на похоронах. Поскольку в последние годы избирательные кампании в Беларуси каждый раз превращаются в похороны надежд на народовластие, на нормальное развитие страны, то у нас в этой старинной профессии появились настоящие виртуозы.**

На политическом календаре – «президентские выборы», и несменяемый секретарь Центризбиркома Николай Лозовик заголосил: «Разобщенность оппозиционных сил…»; «Нам бы хотелось, чтобы представители оппозиции более активно включились в подготовку к президентским выборам…», «Выборы для избирателей тогда становятся интересными, когда озвучиваются разные точки зрения, когда в них участвуют различные политические силы…»

Лозовик страдает и в газетах, и на телеэкране, и на интернет-сайтах. Мол, как ответственно подходят к выборам провластные БРСМ и «Белая Русь» и как безответственно – оппозиция! Ну нельзя так, надо думать о людях!

Изверелась вся и глава Центризбиркома Лидия Ермошина. Потому что нет интриги в выборах, нет к ним должного интереса, бездействуют оппозиционные партии и общественные объединения! «Такое сумеречное молчание необъяснимо и недальновидно», – в унисон с Лозовиком голосит Ермошина.

И чем ближе выборы – тем громче будут причитать. Потому что задача плакальщиков – привлечь к похоронам как можно больше внимания, создать массовку. В древности, отрабатывая свой номер, они часто доходили до экстаза и исцарапывали себя до крови, «страдая» по покойнику, с которым даже никогда не встречались.

У нас устраивают другие «аттракционы». Например, когда голосуют… умершие (такая история, документально зафиксированная, случилась в Смолевичском районе).

Или гонки с избирательной урной и голосование на скорость. (В Витебске на прошлых выборах нашлась комиссия, где голосование на дому умудрились провести со скоростью 2 человека в минуту.)

Интеллектуалам подкидывают на размышление ребусы. Избирателей на участке 100%, приняли участие в голосовании 104%. Как такое может быть? А ведь было. В том же Минске – неоднократно.

Есть еще аттракцион телепортации: это когда независимый наблюдатель выходит на крылечко покурить, а за это время, как потом выясняется, мимо него, но невидимыми, проходили голосовать и голосовали толпы людей.

А есть почти эротический аттракцион разглядывания, пардон, задниц членов избирательных комиссий. Это когда они склоняются дружно над столами для подсчета голосов, закрывая бюллетени своими телами, а наблюдатели вынуждены издали разглядывать только эти самые места, обтянутые юбками и брюками.

Члены комиссий потом дружно голосят: «Мы показали наблюдателям все, что могли. Чем они недовольны?..»

Вместе с ними голосят ЦИК, гостелеканалы, депутаты, разные «правильные аналитики». Про «двойные стандарты», про оппозицию, которая «не на благо страны»; про народ, который «сделал правильный выбор»… Но это работа у них такая – голосить, зазывать на похороны. В нашем случае – на похороны демократии.

И надо ли в этом участвовать, каждый решает сам.

Напомню только одну историю, чтобы потом никто не говорил, что что-то не понимал про белорусские выборы, чего-то не знал, о чем-то не догадывался.

…Вечером 19 декабря 2010 года, в день президентских выборов, если вы помните, Лидия Ермошина спешно покинула студию, из которой велся прямой эфир на телеканале ОНТ. Те, кто смотрел эфир, помнят, что главу Центризбиркома выбил из колеи вопрос ведущего Сергея Дорофеева. Наивный вопрос. Крамольный вопрос.

– Лидия Михайловна, – спросил Дорофеев. – А почему вы не можете провести выборы так, чтобы никто не мог усомниться, что Александр Лукашенко – действительно победитель? (Цитирую по памяти, но смысл был именно таким.)

Иглава ЦИК – всегда такая уверенная, знающая, опытная, категоричная и разговорчивая – просто не нашла, что ответить, практически бежала.

Конечно, потом Дорофеева отстранили от эфира. Ермошину, наоборот, поблагодарили и попросили в том же духе работать дальше. Но сколько бы теперь белорусские власти ни голосили, что Запад к нам несправедлив, что оппозиция – слаба и безответственна, что Александр Лукашенко «избран народом», вопрос-то остался. Снять его можно легко, приняв поправки в Избирательное законодательство, которые предлагает Европа, предлагает оппозиция. Это и сегодня можно сделать, срочно приняв соответствующий закон в «палате представителей» и «совете республики». Но ведь не делают. Голосят и ничего не делают.

Почему официальные власти Беларуси упорно отказываются провести честные выборы по демократическим, цивилизованным стандартам, результаты которых ни у кого не смогут вызывать сомнения?

Ответ на этот вопрос, по-моему, очевиден.

**Светлана Калинкина**
**www.belaruspartisan.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.04.2015 у 16.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.